# ВОЛЬНАЯ Беларусь

Газэта палітычная, эканамічная і літаратурная

Заснавана 10 ліпеня 1917 г. Адноўлена 10 сакавіка 2000 г.




№5 (верасень 2000 г.) Штомесячная газэта №5 (верасень 2000 г.)

## 30 дзён

15 верасьня ў гайку ля пляцу Леніна адбыўся пікет у абарону дзейнасьці НДА. Ініцыятарам акцыі стаў ЦМІ «Контур». Пікетоўшчыкі прадстаўлялі вядомыя моладзевыя НДА Віцебка: «BielNojd», МФ, «Верас» і іншыя.

У гэтым жа гайку вядомы віцебскі апазыцыянер Алесь Мудрачэнка (Грамада) будзе кожны дзень з 18 верасьня пікетаваць гадзіну на карысьць выбараў. Адначасова будзе весьціся збор подпісаў за незалежнасьць і запіс у БСДП «Грамада».

Беларусь набрала 4.1 бала па індэксу карумпаванасьці ўладаў, што зьяўляецца сярэдзінай ўсяго сьпісу. 10 балаў набрала Фінляндыя, што сьведчыць аб адсутнасьці карупцыі. Югаславія і Украіна займаюцьсамыя «карумпаваныя» мейсцы (1.5-1.3 бала).

Аўстрыя. Эўразьвяз абʼявіў аб зьняцьці дыпляматычных санкцыяў з афіцыйнай Вены. Нагадаем, санкцыі былі ўведзеныя пасьля перамогі на выбарах у аўстрыйскі парлямэнт партыі Ёрга Гайдэра, лідэра ўльтраправых Аўстрыі.

# Працістаяньне



Пачатак улады прэзыдэнта быў даволі дэмакратычным і ліберальным. Нішто не паказвала на будучыню дзяржаўную антынацыянальную палітыку. Аднак пачатак 1995 году выявіў памылковасьць веры ў прэзыдэнта.

Асабліва моцны ціск «галоўнага чыноўніка» адчуў ВР 12 скліканьня, калі прэзыдэнт прапанаваў абмеркаваць пытаньні рэфэрэндуму. Заўвагі да незаконнасьці гэтага праэкту не былі ўспрынятыя. Намэнклятура ВР прабівалася ўслед за ППРБ да неабмежаванай улады. Апазыцыя БНФ фактычна была нейтралізавана. Паўстала пагроза незаконнага рэфэрэндуму. Народныя выбраньнікі не разгубіліся: апазыцыя БНФ усім складам абʼявіла галадоўку. Дэпутаты селі на падлогу ля трыбуны й глядзелі ў вочы астатнім.

Псіхалягічны ціск быў вялікі. Пасьля невялікай дыскусіі пачалося галасаваньне. Усе незаконныя праэкты рэфэрэндуму не набралі галасоў. Маральная перамога атрымана!

Аднак галадоўка працягвалася. І таму ноччу па загаду прэзыдэнта ў парлямант былі ўвезеныя 600 салдат і афіцэраў, спецгрупа «Альфа». Франтаўцы былі зьбітыя й вывезеныя з залі.

Раніцой наступнага дня пракуратура пачала справу па факту «зьбіцьця дэпутатаў ВР». Сьпікер ВР жадаў таксама даведацца праўду і пакараць вінoўнага. Аднак, калі ён убачыў, што будынак ураду абкружаны АМАПам і вайскоўцамі,прапускаўшых толькі лаяльных дэпутатаў, жаданьне адразу зьнікла.

Справа была зачынена. Праз нейкі час БТ паказала інтэрвію А. Лукашэнкі: «Я прыйшоў у ВР зь мірам, вы гэта бачылі, я заўсёды саступаў, я заўсёды прасіў, я ўгаворваў, але мне плявалі ў сьпіну, мне плявалі ў твар, зь мяне зьдзекваліся. Я цярпеў».



**А. Ластоўскі**
**(па ўспамінам З. Пазьняка, дэпутата ВР 12 скліканьня)**

Івонка Сурвілла, прэзыдэнт Рады БНР, выказалася за байкот выбараў у «палатку». У сваёй адозве да беларусаў яна адзначыла, што прагалясаваўшы на гэтых выбарах чалавек падтрымае прарасейскую, разрушальную для Беларусі палітыку.

* * *

КХП-БНФ запатрабавала ад Ганса-Гэорга Віка зыходу ў адстаўку з-за здрады Беларусі. Кіраўнік місыі АБСЭ афіцыйна заявіў, што місыя садзейнічала збліжэньню Беларусі і Расеі спадзеючыся на уплыў дэмакратыі з усходу.

* * *

У Славакіі народ і мацнейшыя апазыцыйныя партыі патрабуюць рэфэрэндуму па пытаньню ўваходу краіны ў НАТА. З гэтай нагоды ў сталіцы сабраліся лідэры буйных партый на агульную канфэрэнцыю.

* * *

У Польшчы адбыліся прэзыдэнцкія выбары. Пераканаўчую перамогу (болей за 50%) атрымаў Аляксандар Квасьнеўскі, сяньняшні лідэр краіны. Легендарны Лех Валенса набраў усяго 1 адсотак галасоў. Між тым ў 1995 годзе за Валенсу галясавалі 33.1 адсотак выбаршчыкаў, Квасьнеўскі абыйшоў яго на 2 адсоткі (35.1%).

* * *

Спецыялісты ВДІ «Верас-Цэнтар» прасачылі інтэрнэт-канал першай беларускай паштовай бясплатнай сістэмы *www.pochta.by* і прыйшлі да высновы, што яна фізычна месьціца ў Маскве. Некаторыя фактары сьведчаць пра тое, што сістэма кантралюецца ФСБ.

***BielNojd-Infa***

# Прадвыбарчая акцыя апазыцыі



Насьпеў час зьмяніць восеньскую ціхмянасьць на бурлівасьць. Нейкія й інэрцыйныя выбары ў «палату» апазыцыя сустрэла адзіным шыхтом. Шыхтом, які зацэмэнтаваўся ў барацьбе за волю, за Беларусь.

Так званыя выбары прэзыдэнта–99 яскрава выявілі бязьдзейснасьць шматкоў апазыцыйнага руху. Выбары-99 канчаткова ўпэўнілі ў крызысе старой нац-дэмаўскай Гвардыі; новыя палітыкі пайшлі на яднаньне. Ужо моц гэтага зьвязу паказаў Марш Волі-1, калі шматтысячная хваля знаходзілася ў сапраўды патрыятычным уздыме.Пасьля пайшлі Марш Волі-2,розныя мітынгі й пікеты,й Дзень Волі-2000.

Улада адчула яўна тую небясьпеку грамады. Дзеяньні былі неадкладнымі. Менавіта 25 сакавіка А. Лукашэнка дэманстраваў апазыцыі сваю фізычную важкасьць.Аднак у гэтым выпадку яму не ўдалося зьнерухоміць »нац-дэмаў» як у 1996 годзе. У дадатак ППРБ адчуў мацнейшы ціск з боку Эўропы й ЗША.

Спраўныя дзеяньні патрабавалі ўзгодненных рашэньняў, агульнай сумеснай працы.

Да таго ж А.Лукашэнка пачаў весьці агітацыю па выбарах у «палату». Каардынацыйную ролю адыграў Кангрэс Дэмакратычных Сілаў, які фактычна аформіў палітычны блёк апазыцыйных партыяў. Адначасова замежныя й беларускія СМІ адзначалі значны рост рэйтынгу апазыцыі й асобных палітыкаў.

Судовыя працэсы, якія пачаліся летам, выявілі ймкненьне ўладаў дэскрэдытаваць дэмакратычных лідэраў. Асуджаныя на розныя тэрміны М.Чыгір і М.Статкевіч выглядалі адначасова хапугамі й хуліганамі, а з другога боку змагарамі й канкурэнтамі Лукашэнкі.

Кангрэс улады палічылі „пустой балбатнёй т. зв. Радыкальнай апазыцыі».

Апазыцыя, скаардынаваўшы дзеяньні між партыямі, скарысталі магчымасьць і ўключыліся ў падрыхтоўку Ўсебеларускага Зьезду за Незалежнасьць. І гэта натуральна, таму што Зьезд даваў мажлівасьць прадставіць грамадзкасьці палітычную праграму антыўрадавага блёку й кожнай партыі па-асобку. Акт Незалежнасьці ўяўляў сабой важкі камень, кінуты ў бок А. Лукашэнкі.

Дзяржаўныя СМІ й БТ не заўважылі Зьезду. Яны былі занятыя „балючай» тэмаю: Ці выставіць Эўропа назіральнікаў на выбары-00. Чатыры патрабаваньні місыі АБСЭ улада вывернула наадварот і безумоўна не выканала.

Да т. зв. выбараў-00 незалежныя партыі прыйшлі з байкотам. Але гэта фронт не ахапіў М.Статкевіча, Г.Грушавога, М. Чыгіра, В.Шчукіна й іншых. Гэта агульнаапазыцыйныя спробныя асобы. Між тым М. Статкевічу, М.Чыгіру й В. Шчукіну задаволеныя ўлады скасавалі прысуды цалкам ці часткова. Іхняя пораза на выбарах-00 дае падставу сьцьвярджаць аб парушэньнях у выбарчай кампаніі, а перамога (што малаверагодна) дазволіць «псаваць кроў» уладзе. Безумоўна, што т. зв. выбары дадуць вялікі вопыт выбарчай барацьбы маладой хвале палітыкаў. Пільнаваць будуць усе больш-менш значныя палітсілы. Адразу бачна,што т. зв. выбары у «палату» прыкрыццё й падрыхтоўка палітычнага падмурку як у Лукашэнкі, так і ў апазыцыі. Незалежны зубр і прарасейскі мядзьведзь мераюцца сілаю да сьмяротнае бойкі на Выбарах-2001!

***Працяг будзе...***

**Вінцэсь Развага**



# Наша Перамога

...У далечыні віталі сьцягі. Чырвоныя тканіны з крывавым адценьнем, з сьвятым Юрам, забіваючым зьмея. Блёскалі шаломы, іскрылі вострыя дзіды. Вялікі гетман ВКЛ ў рыцарскіх дарагіх латах падняў гетманскую булаву ўгору, загучалі трубы. Магутнае 30-тысячнае войска пад «арлом» і «пагоняй» ірванула няспынную лаваю туды, дзе, з шаленствам забойцы, неслася 80-тысячная маскоўская збройная агрэсыя...

Гэтак раніцай, 8 верасьня 1514 году пачалася Аршанская бітва, найбуйнейшая сеча XVI стагодзьдзя. Злучанае войска ВКЛ й Польшчы, пад кіраўніцтвам Канстанціна Астрожскага, Юрыя Радзівіла й Яна Сьвіршчэўскага зьмяла агромністую арду маскалёў, якой кіраваў баярын Чаляднін. Немалую дапамогу таленту гетмана Астрожскага далі гарматы і гакаўніцы. Як найважлівейшую падзею адзначыў бітву пад Воршай лісток Нюрнбергскіх навінаў за 1514 год.

Аддаючы найбейшую павагу й шанаваньне слаўным продкам, беларусы кожны год на 8 верасьня ладзяць урачыстую імпрэзу на старадаўнім полі ля вёсачак Пашына й Шугулава Аршанскага павету.

Жыве праз вякі наша Перамога! Жыве наша Воля!

**Тамаш Міцкевіч**

# Рэйтынг белкапіталіста

Жудаснае слова капітал па сяньняшні дзень застаецца добрым пудзілам у беларускіх улад. Багатага чалавека электарат лічыць мафіёзам ці здраднікам-сьпекулянтам. А між тым сусьветная практыка капіталізму даказала, што грошы-рухавік сьвету, заклад міру, дабрабыт нацыі.



Кожны год буйнейшыя сусьветныя часопісы друкуюць зьвесткі аб рэйтынгу горшай мільянераў сьвету. Аднак беларусы там нават не прасочваюцца. Беларускія часопісы таксама не друкуюць гэткай інфармацыі. Нашыя магнаты не распавядаюць аб сваёй дзейнасьці й мільёнах даляраў. Таму складваецца ўражаньне, што багатых беларусаў (ня ў разуменьні электарату) няма.

Між тым у Польшчы ў 1985 годзе была такая ж сытуацыя. Ніхто не адмаўляў, што ў краіне ёсьць магнаты, але знайсьці іх было складана. Першым палякам, які прызнаў сябе за найбагацейшага чалавека Ўсходняй Эўропы, стаў Ігнат Зянон Сашынскі. Ён зрабіў сапраўдную рэвалюцыю поглядаў.

Ігнат Зянон меў фірму INTERFRAGRANCES, якая рабіла напоі, мэблю, гарбату, шампуні й мыла. Ён ня быў уладальнікам глабальнага цяжкапрамыслова-га канцэрну: Сашынскі звычайны прадпрымальнік.

У будучыні сяньняшнія беларускія гандляры, бізнэсоўцы, банкіры будуць маёмасьнікамі монстраў беларускай прамысловасьці. Ёсьць падставы спадзявацца на гэта.

**Сяржук Талер**

P. S. Газэта "Народны Прэзыдэнт" распавяла, што найбагацейшым беларусам ёсьць ППРБ.



# Угодкі беларускага



**235** год з дня нарджэння Міхаіла Клефаса Агінскага,палітычнага дзеяча ВКЛ.Нашчадак старадаўняга роду,ён быў таксама геніяльным кампазітарам.

* * *

**140** год з нараджэння Кандрата Лейкі, беларускага пісьменьніка й настаўніка. Ён аўтар зборніка «Засеўкі», які, нажаль, згубіўся.

* * *

**145** год таму нарадзіўся Еўдакім Раманаў, беларускі этнограф, фальклярыст, архэоляг. Заснавальнік архэалягічных музэяў у Віцебску, Вільні, Магілеве.

* * *

**95** год таму нарадзіўся Віктар Казлоўскі,беларускі паэт-аўтар паэмы «Рахіль».

* * *

**80** год з часу заснаваньня Беларускага дзяржаўнага драматычнага тэатру,утворанага на аснове Першага беларускага таварыства драмы і камедыі.

# Дуб

Рос дуб на белым полі
Шумеў з пакон вякоў.
І не вятры, не грозы...
Не зрушылі яго.
Чырвоныя маланкі
Спаліць дуб не змаглі.
Стаіць ён, як асілак
Трывала ў баі.
Але час не шкадуе
Нічога на зямлі
Бягуць, бягуць, як хвалі
Шалёныя гады.
І вось бяда настала,
Устала з-пад зямлі.
У дуба, у асілка...
Прагнілі карані.
Вада іх падмывала
І грызлі іх звяры
І вось цяпер не воін
На гэтай ён зямлі.
Трышчаць пачала дрэва,
І гнуцца да зямлі,
І не растуць у суквеццях
Даўно ўжо жалуды.
Зялёненкіх лісточкаў
Няма ўжо даўно.
Шуміць дуб, нахіляясь:
Канчаецца жыццё.
І вось аднойчы громам
Так ўдарыла яго,
Што дрэва раскалолась...
На двое катуноў!
І вось цяпер дзве часткі
Ляжаць у сырой зямлі,
Пакрылісь яны ўжо мохам
Паелі мышы іх.
І дуб ужо не ўстане,
Не зашуміць ізноў.
Але расьцё з-пад моху
Малодзенкі дубок!
І пойдзе час наперад
Заменіць бацьку ён,
Таму што так у прыродзе
Ідзе з пакон вякоў...

**Гэта апошні верш выбітнага паэта Віталя Кісяля, жыццё якога трагічна абарвалася...**



**Новы герб на Беларусі.**

Гэтая выява зьявілася ў места Сьветлагорска (раней в. Шацілкі Парычскага раёну), што на Гомельшчыне. Цэнтар гэтага сымбаля ўпрыгожвае прамяністае сонца.

Па выніках апытаньня мясцовых жыхароў большасьць зь іх падтрымлівае прыняцьце гэтага гербу, але ўсе зазначаюць сумны выгляд сонца. Між тым раней прапаўноўваліся варыянты: літара «S» у цэнтры гербу. Ад гэтай літары амаль усімі людзьмі быў адчуты пах д'ябла.

І сапраўды,зараз Сьветлагорск уяўляе сабою крыніцу СНІДу, наркаманіі, палітычнага перасьледу. Можа быць з усходам гэтага сонейка на герб места адбудуцца сьветлыя зьмены ў жыцьці Сьветлагорска й краіны.

**Генадзь Бяда, Гомель**

# БНР і Гомельшчына



Гомельшчына непарыўна зьвязана зь БНР, і ўпачатку стагодзьдзя, і ў сучасны перыяд. Устаўная Грамата Рады БНР ад 25 сакавіка 1918 г. абвесьціла незалежнасьць Беларусі. Жыхары Палесься віталі гэты гістарычны крок. Менск наведалі дэлегацыі Гомельшчыны, каб пацікавіцца разьвіцьцём беларускае культуры, вызначэньня мяжы з Украінай. У сваю чаргу Сакратарыят БНР для ўмацаваньня сувязі з Гомельшчынай прызначыў сюды прадстаўніка — Я. Няцецкага.

Падчас гетманскага рэжыму й украінізацыі Я. Няцецкі разам з найлепшымі прадстаўнікамі краю будаваў падпольна новую беларускую ўладу, якая вырашала ўсе клопаты мясцовага жыцьця.

Прайшоў час, і не немцы, не украінцы, не маскалі сталі гаспадарамі нашае зямлі. У час перапісаў 86 адсоткаў жыхароў адказвалі : «Мы — тутэйшыя, мы беларусы!».

Дзейнасьць БНР і ідэі беларускасьці дапамаглі далучыць Гомельскі й Рэчыцкі паветы да БССР у 1924 годзе. Насельніцтва краю дачакалася вольнае Беларусі ў 1990 годзе. Але зноў паўстала небясьпека з боку Расеі й неўміручыя ідэі БНР зьяўляюцца гарантам непахіснасьці нацыянальнага ладу.

**Генадзь Бяда, *Гомель***

## Місія айца Аляксандра

У красавіку Беларусь наведаў апостальскі візытар для каталікоў-замежнікаў айцец Аляксандр Надсан. На сустрэчу ў Берасцейскім дзяржуніверсітэце сабралася поўная заля.

Першае, што прамовіў айцец Аляксандр, гэта тое, што яму, радасна, але адначасова й сумна прыязжаць на Радзіму, бо нават у эміграцыі не забываў роднай мовы. А вось што адбылося зь ім у Менску... Нейкі мінак запытаўся ў яго,як прайсьці на пэўную вуліцу.

— Ня ведаю,—адказвае Надсан,— я не тутэйшы.

— Бэнэф,ты што какой-та?

— Пры чым тут БНФ? Я зь Лёндану ўвогуле прыехаў.

— С Пазьняком удраў, што лі ?

І гэта зусім ня сьмешна, бо, нават нашчадкі эмігрантаў, хоць ужо і сталі градзянамі ЗША, Францыі, Канады, Вялікае Брытаніі – з задавальненьнем вывучаюць беларускую мову. А вось большасьць цяперашнія цяперашніх эмігрантаў (т.зв. трэцяе плынь)— расейскамоўныя. Гэткую зьяву айцец Аляксандр «абазваў» нацыянальнаю схізафрэніяй.

**Раман Патапчук, Берасьце**


Галоўны рэдактар: Ян Солід
Інфармацыйны рэдактар: Пятро Ленкевіч
Літаратурны рэдактар: Алесь Шчупак
Кампутарнае ўкшталтаваньне: Сяржук Серабро

Заснавальнік: Язэп Лёсік. Адноўлена BielNojd
Наклад 250, на правох рукапісу
Выдавец: ЦМІ «Контур»
Друк: ВА фонду ім. Льва Сапегі

Падтрымка USIS
Адрэса ў БНР: Менск, Захар'еўская
Адрэса ў РБ: Віцебск-1, а/с 40
Пры перадрукоўцы спасылка абавязковая.